КРЫНІЦА
№9, 28 Кастрычніка, 2009 www.bchd.info

# БЕЛ-ЧЫРВОНА-БЕЛЫЯ

**Сьвітаньне ў сьнягах. Радасная белазубая ўсьмешка. Вышытыя кашулі падчас народнага сьвята ў вёсцы. Бел-чырвона-белае – гэта ўзор беларускага шчасьця. І нават больш.**

**Аднекуль з вышыняў, неспасьціжных для чалавечага розуму, сьвеціць, праблісквае гэты вобраз, гэты сымбаль, гэты сігнал.**



Бел-чырвона-белы сьцяг – наймацнейшая канцэнтрацыя сэнсу нацыянальнай ідэі, зашыфраванае імя Беларусі. Бо вось ужо дзьве тысячы гадоў гэта – сьцяг Ісуса Хрыста. Усё проста: белая палатніна, у якую, згодна з габрэйскім звычаем, на пахаваньні загарнулі скрываўленае цела ўкрыжаванага Ісуса, засталася людзям як знак перамогі над злом, нянавісьцю й сьмерцю, калі Хрыстос уваскрос.

Увосені 1991-га бел-чырвона-белы сьцяг быў зацьверджаны як дзяржаўны сьцяг Рэспублікі Беларусь.

Сёньня, увосені 2009-га, праз 18 гадоў, роўна на паўналецьце найноўшай беларускай дзяржаўнасьці, незалежніцкія сілы нарэшце яднаюцца пад бел-чырвона-белым сьцягам. У Менску ствараецца Беларускі Незалежніцкі Блёк: кааліцыя БХД, БНФ, Руху за Свабоду, Маладога Фронту й шэрагу іншых патрыятычных, хрысьціянска-дэмакратычных, праэўрапейскіх рухаў.

Дзесяць апошніх гадоў рэй сярод беларускіх дэмакратаў вялі або няўстойлівыя пратэстныя хаўрусы, збудаваныя паводле прынцыпу «супраць Лукашэнкі» (а хто, маўляй, ня з намі – той супраць нас), або, як гэта не дзіўна, прамаскоўскія камуністы ды лібэралы. Упершыню з 1999 г., калі адбыўся раскол БНФ, бел-чырвона-белыя вяртаюць лідэрства

ў апазіцыі патрыятычным сілам, грунтаваным на хрысьціянскіх каштоўнасьцях.

Рухаючай сілай альтэрнатывы робіцца новая генэрацыя – пакаленьне Маладога Фронту. Кіраўнікі БХД Віталь Рымашэўскі й Аляксей Шэін, Партыі БНФ Аляксей Янукевіч і Ўладзь Лабковіч, Руху За Свабоду Юрась Губарэвіч, Сяргей Салаш, Алесь Зарэмбюк, Сяргей Антусевіч і, натуральна, сёньняшнія маладзёвыя лідэры Зміцер Дашкевіч, Наста Палажанка, Артур Фінкевіч, Юрась Карэтнікаў – выхадцы з Маладога Фронту, якія на зломе 1990-х і 2000-х сфармуляваў нацыянальную ідэю так: «БЕЛАРУСКАЯ ФОРМА – ХРЫСЬЦІЯНСКІ ЗЬМЕСТ».

Ідэйна, і нават духова гэтая новая хваля – спадкаемца вялікіх рухаў беларускай гісторыі. Пакаленьня Залатога веку. Паўстаньняў Касьцюшкі і Каліноўскага. Каталіцкага адраджэньня пачатку XX ст. БХД 1920х-30х. Народнага Фронту 1980-90х... Патрыёты. Эўрапейцы. І самае галоўнае, – вернікі.

Не апазіцыя, а альтэрнатыва – лёзунг бел-чырвона-белых. Розьніца прынцыповая.

Ці здолее новае пакаленьне зьмяніць становішча ў краіне ўжо падчас палітычнай кампаніі 2010-2011 гг.?

Адказ залежыць найперш ад лідэраў. Ад саміх маладых – ці хопіць сілаў ужо цяпер. Ад старэйшага пакаленьня – ці здолее яно дапамагчы, падтрымаць новую хвалю, ці будзе спрабаваць змагацца зь ёй. Урэшце, ад кожнага з нас.

Рана ці позна бел-чырвона-белая хваля накрые ўсю Беларусь.

Мы хочам раней.

Але Бог дасьць нам перамогу толькі тады, калі мы – як народ, як сіла, як асобы – будзем гатовыя ўзяць на сябе адказнасьць за ўсю краіну. Калі будзем настолькі моцна верыць, рабіць, ахвяравацца, аддаваць сябе.

*Рэдактар*





# СЬВЯТОЧНЫ КАНЦЭРТ БХД У МЕНСКУ

**15 кастрычніка ў Менску адбыўся канцэрт, а таксама абранне дэлегатаў на ўстаноўчы з'езд Партыі Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя (БХД) і Беларускі еўрапейскі форум.**

Сустаршыня БХД **Аляксей Шэін** паведаміў агенцтву БелаПАН, што партыя аб'ядноўвае прыкладна 1,8 тыс. членаў і дамагаецца рэгістрацыі. Паводле яго слоў, 28 лютага адбыўся ўстаноўчы з'езд БХД, аднак Міністэрства юстыцыі не зарэгістравала Партыю, бо з 1.072 заснавальнікаў шэсць чалавек адмовіліся ад сваіх подпісаў. «*Гэта звязана з кампаніяй запалохвання заснавальнікаў БХД*», – сказаў Шэін.

Паводле яго слоў, напярэдадні лістападаўскага рашэння Еўрасаюза аб санкцыях у дачыненні да шэрагу беларускіх чыноўнікаў вырашана правесці новы, «больш масавы і відовішчны» ўстаноўчы з'езд БХД і вызначыць стаўленне Партыі да прэзідэнцкіх выбараў. «Калі ўлады не дадуць памяшканне для з'езда, ён будзе праведзены 31 кастрычніка на Кастрычніцкай плошчы сталіцы.

Аляксей Шэін таксама адзначыў, што 14 лістапада ў Мінску запланавана правядзенне маштабнага Беларускага еўрапейскага форуму з удзелам прыкладна тысячы дэлегатаў і гасцей, у тым ліку старшыні і дэпутатаў Еўрапарламента. Паводле слоў Шэіна, форум скіраваны на аб'яднанне тых сіл краіны, у тым ліку аргкамітэта БХД, Партыі БНФ і руху «За Свабоду», якія выступаюць «*за прабеларускі і праеўрапейскі выбар» развіцця грамадства. Форум павінен прадэманстраваць беларускай і міжнароднай супольнасці наяўнасць у краіне «дастатковых сіл» – партый, арганізацый і асоб, якія прытрымліваюцца прабеларускіх і праеўрапейскіх каштоўнасцей. «Аднак на гэтым форуме не будзе вылучацца кандыдат для ўдзелу ў прэзідэнцкіх выбарах*», – сказаў Шэін.




*Удзельнікі сходу*

Сход БХД быў сумешчаны з барадаўскім канцэртам. Сябры БХД **Валерыя Чарнаморцава** паведаміла, што з ініцыятывы сустаршыні БХД **Паўла Севярынца** другі год рэалізуецца праект «Беларускі Хрысціянскі Хіт», у межах якога выпушчана чатыры кампакт-дыскі і рыхтуецца пяты – «Бардаўскі Хрысціянскі Хіт». Яго прэзентацыя адбудзецца 31 кастрычніка ў Мінску на канцэрце пасля ўстаноўчага з'езда БХД.

Апроч канцэрту і выступу Аляксея Шэіна, былі таксама прэзентаваныя сацыяльныя праграмы БХД, такія як «мастацкія пленэры» на дзіцячых пляцоўках.




*Бард Таццяна Беланогая*

# ПРАЙШОЎ СХОД ГРОДЗЕНСКАЙ СУПОЛКІ БХД

**Кіраўніком гарадскога аддзялення «Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі» абраны Алесь Кіркевіч, рэдактар мясцовай газеты «Хрысціянская абарона». Лідэр БХД Павал Севярынец акрамя сходу наведаў учора і паседжанне гродзенскай арганізацыі непрызнанага ўладамі Саюзу палякаў на Беларусі.**



**Павал Севярынец** абмеркаваў пытанні супрацы БХД і СПБ, таксама адбылася прэзентацыя ягоных кніг.

На сходзе гродзенскай суполкі БХД вырашаліся два асноўных пытанні: вылучэнне дэлегатаў на Устаноўчы з’езд Партыі ў Мінску, які адбудзецца 31 кастрычніка, і пераабранне кіраўніка гарадскога аддзялення.

На з’езд было вылучана 8 дэлегатаў, кіраўніком гарадской суполкі абраны **Алесь Кіркевіч**. Ён змяніў на гэтай пасадзе **Яна Лялевіча**.

З удзелам Севярынца былі абмеркаваныя пытанні якія хвалявалі гарадзенцаў: сёлетняя сітуацыя ў краіне, узаемаадносіны з Расіяй, праблема асабістых нумароў у пашпарце РБ і шэраг іншых.

# АДБЫЛАСЯ БЕРАСЦЕЙСКАЯ АБЛАСНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ БХД



**15 кастрычніка ў Кобрыне прайшла Берасцейская абласная канферэнцыя БХД. Нажаль, не абыйшлося без інцыдэнта.**

Удзельнічаць у паседжанні з’ехаліся каля 40 дэлегатаў з Берасця, Кобрына, Івацэвічаў, Іванава і Баранавічаў. Былі абмеркаваныя пытанні правядзення ўстаноўчага з’езду БХД, Беларускага еўрапейскага форуму, а таксама абраная кіраўнічая рада Берасцейскай абласной арганізацыі БХД. У яе склад увайшлі сем чалавек, узначаліў раду **Зміцер Шурхай**.

Пасля паседжання адбылася прэзентацыя кніг **Паўла Севярынца** «Люблю Беларусь», «Лісты з лесу» і «Маладафронтаўцы» (у суаўтарстве з **Настай Палажанкай**).

Нажаль, не абыйшлося без інцыдэнту. Пакуль адбывалася рада, невядомыя прабілі кола ў аўтамабілі сябраў БХД з Баранавічаў.

# АДБЫЛАСЯ МАГІЛЁЎСКАЯ АБЛАСНАЯ КАНФЕРЭНЦЫЯ БХД



**17 кастрычніка ў Магілёве прайшло паседжанне абласной Магілёўскай канферэнцыя БХД. Гэтым разам абыйшлося без інцыдэнтаў.**

Удзельнічаць у паседжанні з’ехаліся больш за 20 дэлегатаў з Магілёва, Чавусаў, Бабруйска, Клічава, Горак, Асіповічаў, Кіраўскага, Бабруйскага і Магілёўскага раёнаў. Былі абмеркаваныя пытанні правядзення паўторнага ўстаноўчага з’езду БХД, Беларускага еўрапейскага форуму, а таксама створаная кіраўнічая рада Магілёўскай абласной арганізацыі БХД. У яе склад увайшлі 11 чалавек, а кіраўніком абралі **Таісію Кабанчук**.

# ВІТАЛЬ РЫМАШЭЎСКІ СУСТРЭЎСЯ ЗЬ БЕЛАРУСАМІ, ЯКІЯ ЖЫВУЦЬ І ВУЧАЦЦА У ПОЛЬШЫ

**13 кастрычніка ў Варшаве адбылася сустрэча *Віталя Рымашэўскага*, сустаршыні БХД, зь беларусамі, якія жывуць і вучацца ў Польшчы. Размова ішла пра сёньняшнюю сытуацыю ў Беларусі й пра пляны на будучыню.**



На сустрэчу былі запрошаныя беларусы, якія жывуць у Польшчы й цікавяцца падзеямі ў Беларусі. Мэтай сустрэчы было праінфармаваць, што зараз адбываецца ў Беларусі. Сустрэча доўжылася каля гадзіны. Першай часткай быў выступ Віталя, які распавёў пра БХД і пра працу, якую вядзе партыя. Другая частка была прысьвечана дыскусіі, былі пытаньні людзей.

Удзельнікаў сустрэчы цікавіў вельмі шырокі спэктар пытаньняў, сярод якіх палітычная сытуацыя ў Беларусі, адносіны з Эўразьвязам, пляны беларускіх дэмакратычных сілаў.

*«Сустрэча тычылася агульнай сытуацыі ў Беларусі, дзейнасьці БХД. Я быў усьцешаны тым, што людзі цікавяцца сытуацыяй у Беларусі. Толькі яны выказвалі мала энтузіязму ў справе будучыні й зьменаў да лепшага ў Беларусі. Пыталіся пра сытуацыю ў дэмакратычных колах, пра нашыя пляны на будучыню й пра адносіны з Эўропай.*

*Сустрэча прайшла ў пазытыўнай атмасфэры, аднак, па словах выступоўцы, было шмат пэсымістычных заўвагаў наконт пэрспэктываў дэмакратычных зьменаў у Беларусі. Я спрабаваў пераконваць, што такія пэрспэктывы ёсьць, іх трэба ствараць уласнай працай», – адзначыў* **Віталь Рымашэўскі.**

Арганізатар сустрэчы ***Анатоль Міхнавец***, кіраўнік ініцыятывы „Беларуская нацыянальная памяць", плянуе працягваць далей гэтую практыку сустрэчаў беларускіх палітычных ды культурных дзеячоў зь беларусамі, якія знаходзяцца ў Польшчы.

*Падрыхтаваў Юры Ліхтаровіч*

# ПАВАЛ СЕВЯРЫНЕЦ НАВЕДАЎ З ВІЗІТАМ ГАЛАНДЫЮ



**Лідэр Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі Павал Севярынец правёў сустрэчы з кіраўнікамі галандскіх палітычных партыяў.**

Падчас візіту **Павал Севярынец** сустрэўся з старшынём кіруючай хрысціянска-дэмакратычнай партыі (CDA) Нідэрландаў **Пэтэрам ван Хейсвікам** (Peter van Heeswijk), з кіраўніцвам партыі Хрысціянскі Звяз (Cristen Unie), а таксама віцэ-старшынёй Еўрапейскай Народнай Партыі (EPP) **Карын Вортман-Коль** (Corien Wortmann-Kool).

Падчас сустрэчы з Пэтэрам ван Хейсвікам была абмеркавана сітуацыя ў Беларусі, а таксама сучасная палітыка ва умовах крызісу, заснаваная на хрысціянскіх каштоўнасцях.

Сустракаючыся з прадстаўнікамі партыі Хрысціянскі Звяз, Павал Севярынец падзякаваў кіраўніцтву за ініцыяванне разгляду ў галандскім парламенце пытанняў аб сітуацыі вакол царквы «Новае жыцце» і рэгістрацыі БХД. Ён распавёў пра бліжэйшыя планы Партыі і запрасіў наведаць з’езд, запланаваны на 31 кастрычніка.

На сустрэчы з Карын Вортман-Коль абмяркоўвалі сітуацыю з уступленнем Беларускай хрысціянскай дэмакратыі у Еўрапейскую Народную Партыю (EPP).

*Прэсавая служба БХД*

# ДВУ



Вядучая «Двубою»
Ірына ГУБСКАЯ

***Дарагія чытачы!***

***Прапануем Вашай увазе ДВУБОЙ. Кожны нумар газэты два лідэры БХД спрачаюцца па найбольш вострых і важных пытаньнях палітыкі і грамадзкага жыцьця: змаганьне з алькагалізмам і абортамі, стасункі зь ЕС, Расеяй, NATO, будаўніцтва АЭС, сьмяротнае пакараньне.***

***Пераможцу вызначыце Вы! Сёньня – ФІНАЛ: «Нацыянальныя сымбалі і мова: зараз ці потым?»***



*Лідэр Гомельскага БХД*

## Кастусь Жукоўскі:

**«Веру, што зусім хутка беларусы будуць размаўляць па-беларуску і спяваць гімн «Магутны Божа» пад бела-чырвона-белым сцягам Хрыста»**

ЗАРАЗ!

Якія нацыянальныя сімвалы Беларусі? У свядомага беларуса тут не паўстае пытанняў. Канешне ж гэта бела-чырвона-белы сцяг Хрыста, герб Пагоня, на якім знаходзіцца выява святога для беларусаў Ефрасінеўскага крыжа, гімн «Магутны Божа» – малітва беларуса з просьбай абараніць родную старонку. Нацыянальныя сімвалы Беларусі гістарычныя, пранесеныя праз войны і дні міру, перамогі і паразы. Сімвалы у першую чаргу хрысціянскія. Як мы, хрысціяне, можам казаць пра іншыя?

Пытанне, як нацыянальныя сімвалы могуць набыць яшчэ і статус дзяржаўных. У сенняшніх палітычных умовах зразумела – ніяк. Чалавек, які аднойчы змяніў дзяржаўную нацыянальную сімволіку, не верне яе назад. Тая улада, што аднойчы парвала сцяг Хрыста на кавалкі і выкінула нацыянальны герб на сметніцу – ніколі не прызнае гэтыя сімвалы. Нам застаецца захоўваць іх да часоў перамогі. Для Беларусі новай, дэмакратычнай.

Я веру ў тое, што гэты час ужо не далека. І зусім хутка над дахамі дзяржаўных устаноў будуць лунаць нацыяналыя бела-чырвона-белыя сцягі. Часам здаецца, што перакананні людзей ужо ня маюць сэнсу. Людзі за 15 год панавання зла і няпраўды ужо вельмі дрэнна рэагуюць на нейкія заклікі ці лістоўкі, а рэферэндумы лічаць звычайным навязваннем ужо прынятага кіраўніцтвам краіны рашэннем, якое народ як бы павінны прыняць. І сімвалы ў Беларусі павінны змяніцца згодна з рашэннем парламенту. Беларусы і так ужо 15 год чакаюць такога рашэння, а рэферэндум гэта дадатковыя грашовыя страты. Вядома, што і у парламенце Беларусі будуць розныя меркаванні на гэты конт, але упэўнены, што у новай Беларусі гэта рашэнне будзе прыняць нашмат лягчэй, чым калі яго прымалі у 1991 годзе. І прыхільнікаў такога рашэння нашмат больш чым якога небудзь іншага. Беларускія сімвалы перадусім хрысціянскія. Сення наша задача іх захаваць, заўтра – данесці іх да кожнага грамадзяніна Беларусі.

На мой погляд акрамя змены сімвалаў трэба у гэты час паралельна праводзіцць і інфармацыйную і адукацыйную кампаніі. Калі сёння падыйсці на вуліцы да любога выпадковага чалавека і запытацца пра нацыянальныя сімвалы – то магу гарантаваць на 99%, што гэты чалавек увогуле першы раз чуе такое спалучэнне слоў. Таму трэба данесці да кожнага з 10 мільенаў беларусаў што такое нацыянальныя сімвалы, распавесці што гэта нашая нацыянальная каштоўнасць, наш скарб.

Але есць у беларусаў есць яшчэ адно пытанне, больш вострае і недзе нават больш важнае, пытанне якое ставіць пад пагрозу увогуле існаванне беларусаў як нацыі. Я кажу пра пытанне мовы.

Канешне, у Беларусі павінна быць адна дзяржаўная мова – беларуская. Бо як у народа з такой вялікай гісторыяй некалькі дзяржаўных моў, прычым нядорная займае большую частку жыцця беларусаў? На мой погляд галоўная прычына – той факт, што усё дзяржаўнае справаводства, рэклама, навучанне вядзецца пераважна на расейская мове. Калі яшчэ учора навучанне у школе дзе-нідзе было па-беларуску, то сення такіх установаў усе менеей і меней. Няма перспектывы – канстатуюць вучні і іх бацькі. Сення вучымся па-беларуску, але дзе гэта можна прадоўжыць ? У Беларусі ж няма ніводнага беларускамоўнага універсітэту. Надаць такую магчымасць, паравесці усе дзяржаўныя і недзяржаўныя афіцыйныя установы на беларускую мову – вось д зе пачатак беларускага адраджэння.

Але так проста перавесці ўсё на беларускую мову немагчыма. Установы – так, для гэтага патрэбны закон, прыняты парламентам ці дэкрэт прэзідэнта. Для таго, каб людзі перайшлі на беларускую мову, патрэбны час. Усе ж такі 200-гадовае панаванне расейшчыны дало плён. І адмова ад расейскай мовы ва ўжыванні можа прывесці да падзелу грамадства. Да таго ж Расея – магутны сусед, і мы не маем права адгароджвацца сцяной ад яе, таксама як і ад Еўропы. Трэба грунтоўнае супрацоўніцтва, зразумела на правах роўнасці і незалежнасці Беларусі.

Каб Беларусь была сапраўды незалежнай трэба размаўляць па-беларуску, трэба адна дзяржаўная мова – беларуская. Мы, як хрысціяне, павінны паказаць усяму свету, што годныя бела-чырвона-белага сцяга Хрыста і герба Пагоні, якімі нас гістарычна надзяліў лёс і Сам Бог. Мы годныя спяваць наш гімн «Магутны Божа», калі нашы суайчыннікі займаюць вышэйшыя ступенькі п'едэсталу, стоячы пад нацыянальным сцягам – сцягам Хрыста, мы годныя уздымаць наш сапраўды святы сцяг на мерапрыемствах найвышэйшага узроўню, мы годныя уносіць яго у нашыя дамы, нашыя сэрцы. Толькі так здабываецца сапраўдная беларуская незалежнасць, свядомасць.

# Б О Й

***Вы можаце прагаласаваць за ўдзельніка, якога падтрымліваеце, праз тэлефон – +8 029 516 08 61, sms, e-mail: bchd.info@gmail.com, праз сайт: www.bchd.info, ці пошту: 220123, г. Мінск, а/с 324. (Проста пазначце прозьвішча – за каго аддаеце Ваш голас).***

***Таксама прымаюцца заяўкі на ўдзел у ДВУБОІ.***



*У другім паўфінале, прысьвечаным пытаньню «Вы за мажарытарную ці зьмяшаную выбарчую сістэму?», перамогу зь лікам 95 : 71 атрымаў прыхільнік зьмяшанай выбарчай сістэмы КАСТУСЬ ЖУКОЎСКІ.*

*прадпрымальнік*

## Лявон Скарабагаты:

**«Народ стогне пад цяжарам умоў жыцця, а нашыя адраджэнцы спрачаюцца, дзе пісаць мяккі знак і дзе не пісаць»**



ПОТЫМ!

Я бы разгледзеў пытанне беларускай нацыянальнай сімволікі і беларускай мовы ў некалькіх аспектах.

Першае пытанне: Ці з’яўляецца нацыянальная сімволіка ды мова каштоўнасцю самі па сабе? Адказ: безумоўна, і мова, і сімволіка, і гімн, і герб, і сцяг, як і ўся беларуская культура з’яўляецца, кажучы па-руску, национальным достоянием.

Другое пытанне – пытанне, як данесці гэтыя сімвалы да нашых суайчыннікаў – больш складанае.

Па-першае, савецкая сімволіка, якая з’яўляецца зараз у Беларусі дзяржаўнай сімволікай, для мяне асабіста – сімвал рабства, а «Пагоня» і нацыянальны сцяг – сімвал свабоды. Таксама і беларуская мова – мова свабодных людзей. Але ці зразумела гэта для асноўнай масы беларусаў? Ці з’яўляюцца для нашых суайчыннікаў нацыянальныя сімвалы СВАІМІ, НАШЫМІ?

У Беларусі так гістарычна склалася, што асноўная частка сучасных дзеячаў адраджэння адарвалася ад агульнай народнай масы, не ведаюць народнага жыцця, народных памкненняў. У той час, як народ стогне пад цяжарам умоў жыцця, нашыя адраджэнцы спрачаюцца, дзе пісаць мяккі знак, а дзе не пісаць.

Дарэчы, гэта датычыць усяго апазіцыйнага руху – той сілы, якая магла б стаць агульным нацыянальна-вызвольным рухам. Але пакажыце мне за апошнія 10 год хоць адну акцыю ў падтрымку звычайных беларусаў… За выключэннем «жывога шчыта» – іх няма. Нашыя праваабаронцы змагаюцца за правы сексуальных меншасцяў, зараз узялі пад сваю абарону серыйнага забойцу. Але ці заступіўся хто за тых людзей, якіх выселяюць з іх уласных дамоў таму што іх вуліцу купіў маскоўскі «інвестар»? Калі ў адзін дзень ліквідавалі 200 тысяч працоўных месцаў у ІП, калі адмянілі льготы пенсіянерам і студэнтам, калі абмежавалі атрыманне гуманітарнай дапамогі малазабяспечаным, калі цісную прадпрымальнікаў – чаму не відаць і не чуваць нашых патрыётаў? Ці падтрымаў хто тых людзей, якія кожны дзень сустракаюцца з беззаконнем на сваёй працы, у кабінетах чыноўнікаў, у ЖЭСах, паліклініках, у крамах? Ці ёсць хоць адна кропка, куды можа прыйсці пацярпелы і атрымаць дапамогу?

Таму нічога дзіўнага няма ў тым, што звычайныя грамадзяне не лічаць апазіцыйныя структуры «сваімі», а разам з імі не лічаць сваімі і нацыянальную сімволіку, і беларускую мову. І так будзе да той пары, пакуль кіраўнікі дэмакратычнага руху не адчуюць сябе часткай адзінага народу, не пачнуць жыць адным жыццём са звычайнымі грамадзянамі.

Што рабіць? Павярнуцца тварам да людзей, перастаць іх баяцца. Зразумець іх патрэбы і памкненні. Стаць на абарону іх правоў і свабод. Калі людзі убачаць, што пад бел-чырвона-белым сцягам знаходзіцца не камерцыйная кантора, а рэальная сіла, здольная абараняць людзей – тады і нацыянальная сімволіка, і беларуская мова стануць для іх роднымі. Тады прымусовае ўвядзенне і не спатрэбіцца. Жыве Беларусь! Жыве з Богам!

***Дарагія чытачы «Крыніцы»!***

*Сёньня ў нашай рубрыцы мы прадстаўляем праект «ТВАЁ ІМЯ, БЕЛАРУСЬ». У кожным нумары газэты мы будзем друкаваць матар'ялы пра найвялікшых беларусаў і беларусак. Мэта: выбраць Імя Беларусі – асобу, што выяўляе нашу Радзіму найпаўней. Пачалі мы з Эўфрасіньні Полацкай, беларускай сьвятой. Атрымальнікі нашай паштовай рассылкі пазначылі, пра каго б яны хацелі прачытаць у «Крыніцы»: найбольш галасоў набралі Францішак Скарына (22), Кастусь Каліноўскі (18), Янка Купала (18), Васіль Быкаў (17), Вітаўт (17), Міхал Клеафас Агінскі (16), Максім Багдановіч (15), Уладзімір Караткевіч (14), Леў Сапега (14), Мікалай Радзівіл Чорны (12). Запрашаем і вас удзельнічаць у праекце – дасылаць свае тэксты і меркаваньні. Сеньня мы прадстаўляем* **Васіля Быкава**.

***Абярэм Імя Беларусі разам!***



# ВАСІЛЬ БЫКАЎ



Той, хто калісьці пабачыў вочы ворага, хто хоць гадзіну жыў на мяжы сьмерці, хто ўжо аднойчы перамагаў інстынкт самазахаваньня – будзе чытаць прозу Быкава запоем, як уласны дзёньнік.

Клясык сусьветнае літаратуры. Франтавік і фронтавец. Чалавек, які напісаў усё пра вайну.

Малады Быкаў вучыўся ў Віцебскім мастацкім тэхнікуме. На скульптара – ляпіць людзей. І вось вайна, дзе людзей забіваюць.

18-гадовым трапіў на фронт. Камандзір стралковага ўзвода і батарэі легендарных «саракапятак», быў паранены й нават пахаваны. Бацькам прыйшла пахаронка, а пад Кіраваградам дагэтуль імя на надмагільлі. Але ён выжыў, каб мы ведалі, як гэта – паміраць.

Разам з вайною Быкаў абышоў паў-Эўропы: Украіну, Румынію, Вугоршчыну, Аўстрыю. Гэта потым, у палітычнай эміграцыі, ён атрымае прытулак у Фінляндыі, Чэхіі й той самай Нямеччыне. Падарожжы апостальскага размаху. А ягоныя кнігі абыдуць увесь сьвет: больш за 3 мільёны асобнікаў на 72-х мовах.

Быкаў, які пісаў пра Беларусь і беларусаў, дазволіў чалавецтву ўбачыць вайну беларускімі вачыма.

Ваенная проза Быкава простая й стэнаграфічна дакладная. Да апошняе думкі, да імпульсу, да нэрвовага рэфлексу. Ува ўсіх перакладах. Проза, што жыве ў рытме рэальнага часу і б'ецца ў скронях, як пульс. Псыхалягічны злом вайны поўнасьцю выварочвае нутро, раскрывае чалавечую асобу да астатняе клетачкі.

Адкрыцьцё чалавека з усім яго грэхам і страхам, з воляю і вераю, з усім што ў ім. Рэдка каму даецца такі дар. Гэта ад Бога.

У Быкава ўражвае гранічная яснасьць чалавечага выбару. Момант ісьціны, да якога ідзеш сьлед у сьлед за ягонымі героямі. Момант як стрэл. Як выбух. Быкаўскую прозу складаюць не сюжэт, не мастацкія вобразы, а жыцьцё душы як яно ёсьць. Абсалютна Усё Важна. «Так» у Быкава значыць так, «не» – не, бо ягоны стыль – гэта праўда.

Усё жыцьцё самога Быкава – вайна за праўду.

Калі ў 1959 г. у «Маладосьці» выйшаў «Жураўліны крык» – яго, сярод грукату, раскатаў і фанфараў афіцыёзнае паваеннае літаратуры, пачулі ўсе. Пранізьлівы жураўліны крык, быццам зь неба. Потым былі «Трэцяя ракета», «Круглянскі мост», «Альпійская баляда», «Праклятая вышыня», «Яго батальён»... Быкава чакалі, друкавалі й чыталі згаладалыя па праўдзе франтавікі. А калі быкаўскія аповесьці пачалі выходзіць у «Новом мире» яшчэ аднаго беларуса Аляксандра Твардоўскага – імі зачытваўся ўвесь Савецкі Саюз.

Камуністычная прапаганда заўжды была варожай да Быкава. Пасьля найвастрэйшага «Мёртвым не баліць» Быкаў жыў у стане вайны з сыстэмай. «Правда» публікавала разгромныя артыкулы, ідэолягі-камуністы кляймілі з трыбунаў, у доме ў Горадні білі шкло. Быкаў змагаўся да апошняга: «Сотнікаў», «Знак бяды», «У тумане», «Аблава», «Сьцяна», «Доўгая дарога дадому». І перамог.

Кнігі Быкава падрывалі галоўныя падмуркі імпэрыі зла – камуністычную ідэалёгію, сыстэму хлусьні аб чалавеку, вялікі міф аб вайне. Быкаў дажыў да таго часу, калі праўду назвалі праўдай.

І таму на гістарычным Аргкамітэце Беларускага Народнага Фронту 19 кастрычніка 1989 г. менавіта выступ Быкава забясьпечыў БНФ прарыў у вялікую палітыку. Намэнклятура панічна адступала. Быкаў зрабіўся сьцягам нацыянальнага руху.

Ён ваяваў за праўду і тады, калі рэжым Лукашэнкі здаваў здабытую незалежнасьць, і тады, калі яго афіцыйна замоўчвалі, і тады, калі вымусілі зьехаць зь Беларусі.

Ён і загінуў, як жаўнер. За некалькі дзён да сьмерці вярнуўся на Радзіму, як на баявы пост. Дачакаўся даты пачатку вайны. І памёр, папрасіўшы пахаваць яго пад бел-чырвона-белым сьцягам. Шматтысячнае шэсьце на праспэкце Скарыны зь ягонай труной на руках ператварылася ў нацыянальную маніфэстацыю.

Бітву працягваюць кнігі Быкава.

Бо Васіль Быкаў, геній нацыі, якой адно б не было вайны, пісаў праўду пра вайну вечную. Вайну ўнутры кожнага з нас. Вайну супраць страху, хлусьні і сьмерці.

*З кнігі Паўла Севярынца «Люблю Беларусь»*



## ПРОДКІ

Я думаю пра знакамітых продкаў,
Якіх шмат хто не знае сёння ў нас.
Было жыццё іх бурным, як паводка,
Агонь спазнання ні на міг не гас.

Працаўнікі, падзвіжнікі, героі,
За ісціну і праўду змагары...
Жывое слова – вечная іх зброя,
З якою штурмавалі свет стары.

Свет цемрашальства і гнілой маралі,
Напоўнены падманам, здзірствам, злом,
За што жыццё ім часта ўкарачалі
Сякерай, шыбеніцай ці агнём.

А колькі тых, хто бунтаваў, пярэчыў
І нёс дастойна вальнадумства сцяг!
Ізгоямі – у беднасці, галечы –
Заканчвалі, здаралася, свой шлях.

Іх узвышала вернасць ідэалам.
На ніве мары рупіўся сявец.
І будучыні зерне прарастала,
Каб золатам калоссю зазвінець.

*Эльвіра Ярчак*

* * *

Наш дух разбаўлены,
Наш лёс – забраны.
Мы пераплаўлены,
Знівеляваны.

Пытанне рускае
«Хто вінаваты?»
Занадта вузкае,
І больш – кургатае.

Калі ліслівыя,
Калі наіўныя,
Жывём жа неяк –
Такія дзіўныя...

*Галіна Каржанеўская*



* * *

Мне Богам дадзеная доля –
Сцяжынак безліч у жыцці.
Я не збіралася ніколі
Камусь дарогу перайсці.

І не хачу ніякай славы,
Бо да яе не дарасла.
Я грамадзянка той дзяржавы,
Якая прывідам была.

Сваё не памяняла крэсла,
Яно ў мяне было адно.
Усё жыццё свой крыж я несла,
Які мне выдалі даўно.

Сваёй радзіме, Беларусі
Хачу дачкою роднай быць,
Каб у сусветнай завірусе
Сваё прызванне не згубіць.

*Альдонія Наўчанкова*
*г.п. Клецк*



Дай нам цярпення, Уладар,
Каб несці крыж свой
без напругі.
Яшчэ дай зміранасці дар,
Каб ледзьве што--
не рваць папругі.

Пачуй, дай мудрасці крыху
І зоркія – духоўна – вочы,
Каб адкаснуцца ад граху
Ды са шляху свайго
не збочыць.

Каб не паддацца махлярам
Ды не спяваць у гідкім хоры,
Дарэчы мужнасць будзе нам,
Патрэбна сіла непакоры.

І калі выканаць гатоў
Ты хоць найменшае прашэнне,
То дай такую нам любоў,
Каб падняліся ўсе
з каленяў.

*Галіна Каржанеўская*

# БХД: ІНТЭРНЭТ ПА БЕЛАРУСКУ






**Прапануем Вашай увазе інтэрвію з прайграмайстрам Сяргеем Чарнавокім, сябрам Нацыянальнай рады БХД, кардынатарам дзейнасьці па Фрунзенскім раёне г.Менска, які займаецца беларусізацыяй інтэрнэту**

**– Крыху пра сябе:**

Мне 35 год, стала жыву ў Менску, працую інжынерам па тэлекамунікацыях на прыватным прадпрыемстве.

Фармаваньне маёй грамадзкай пазіцыі адбывалася ў коле сяброў, што навучаліся ў той час на філфаку БДУ, і пад уплывам палітычных рухаў пачатку 90-х гадоў: удзел у мітынгах, шэсьцях на Дзяды, выступы Зянон Пазьняка, сяброўства ў ТБМ.

Атрымаўшы вышэйшую адукацыю, я пачаў працаваць па спэцыяльнасьці, вывучыў дзьве замежныя мовы: ангельскую і нямецкую, пэўны час клапаціўся пра сям’ю і кар’еру і мала ўдзельнічаў у грамадзкім жыцьці.

Праз удзел у БХД я знайшоў ня толькі сяброў і аднадумцаў, але і тую Ідэю, якой мне бракавала ў папярэдні час. Менавіта ідэі праўды і патрыятызму сталіся тым грунтам, які аб’яднаў такую колькасьць людзей, розных па веку, прафэсіі, веры і жыцьцёвым досьведзе, якіх мы зараз маем у БХД.

**– Чым ты асабіста займаесься дзеля роднай краіны і грамадзтва?**

Я лепш за ўсё магу ацаніць стан справаў у сваёй прафэсійнай галіне– кампутарнай тэхніцы. Таму я разам зь іншымі энтузіястамі займаюся адаптацыяй праграмнага забясьпячэньня да тых карыстальнікаў, якія аддаюць перавагу роднай мове. Зараз мы маем пасьпяховы досьвед беларускай лякалізацыі цэлага шэрагу праграмаў: апэрацыйных сыстэмаў, офісных і камунікацыйных праграмаў, гульняў і сродкаў працы з Інтэрнэт. Вось як выглядае тэкставы рэдактар у беларускай сыстэме Ubuntu Linux 9.10. (гл. малюнак)

Акрамя таго, што гэтая сыстэма цалкам беларуская, яна ня мае ліцэнзійных коштаў і таму абыходзіцца значна таньней пры набыцьці.

Разам з праграмамі мы займаемся беларусізацыяў рэсурсаў Інтэрнэт.




У якасьці прыкладу прапаную беларускую вэрсію вольнай энцыкляпэдыі Вікіпэдыя і сацыяльную сетку Фэйсбук.

Над гэтымі праектамі працуе каля 100 чалавек, але вынік нашай працы ўжо добра вядомы ва ўсім сьвеце. Крыху дзіўна тое, што ў Беларусі ёсьць вялікая навукова-тэхнічная ўстанова – Парк высокіх тэхналёгіяў, які мае вялізныя офісы і агромністыя сродкі ад дзяржавы, але распрацоўкі, пра якія я кажу, робіць купка энтузіястаў бяз аніякай грашовай ці арганізацыйнай падтрымкі. Можа, крыніца нашага посьпеху якраз у тым, што дзяржава нам ня «дапамагае»?



# АЭС: НА СЛУХАННЯХ НАШ ГОЛАС НЕ ПАЧУЛІ



Днямі скончыўся тэрмін адміністратыўнага зняволення вядомага фізіка-ядзершчыка Андрэя Ажароўскага, які быў асуджаны Астравецкім раённым судом у пятніцу 9 кастрычніка. Арышт вучонага адбыўся ў сувязі з грамадскімі слуханнямі, прысвечанымі «Заявлению о возможном воздействии на окружающую среду Белорусской АЭС». Дарэчы, на дзяржаўнай беларускай мове гэты дакумант, наколькі мне вядома, так і не быў апублікаваны, так што можна было працаваць толькі з рускамоўным варыянтам.

Самі слуханні таго ж 9 кастрычніка праходзілі ў кінаканцэртным цэнтры г. Астравец. У 10:00 пачалася рэгістрацыя удзельнікаў. У залю прапускалі пры наяўнасці рэгістрацыйнага талона. Аднак некаторым удзельнікам слуханняў, якія прайшлі рэгістрацыю ў першыя секунды пасля яе афіцыйнага пачатку, прыйшлося доўга чакаць каля ўвахода, пакуль валантэры ў зялёных шаліках прапускалі наперад іх групы слухачоў спецыяльна камандзіраваных рознымі прадпрыемствамі. Гэтыя групы рэгістраваліся асобна, у сваіх аўтобусах, то бок па-за законнай працэдурай рэгістрацыі. Большая частка удзельнікаў, якія мелі крытычныя заўвагі да дакуманта, былі недапушчаныя ў залю.

Самі слуханні распачаліся ў 12:00 выступам намесніка міністра энэргетыкі Міхаіла Міхадзюка, які большую частку свайго даклада прысвяціў сітуацыі ў паліўна-энэргетычным комплексе краіны і рэкламе атамнай энэргетыкі, пры гэтым ён ніякім чынам не крануўся зместа дакуманта, дзеля абмеркавання якога былі прызначаныя слуханні, затое груба парушыў рэглямент, выступаючы 45 мінут замест належных 20. Пасля свайго дакладу ён даручыў весці слуханні намесніку Гарадзенскага воблвыканкама Мікалаю Кавалёву, які адрозніўся надзвычайнай грубасцю, калі не сказаць хамствам, у адносінах дакладчыкаў і слухачоў. Большая частка выступоўцаў прадстаўляла сабой людзей неабазнаных у тэме слуханняў, якія на розныя лады хвалілі праект АЭС, нічога не кажучы пра вынесены для абмеркавання дакумант.

Станоўчым выключэннем сталі выступы акадэміка Георгія Лепіна і прадстаўніка МГА «Грынпіс» Уладзіміра Чупрова, якія ўказалі на сур'ёзныя недапрацоўкі ў «Заявлении об ОВОС». Іх выступы строга ўпісваліся ў тэму абмеркавання. Тым не менш, карыстаючыся сваім становішчам, адзін з афіцыйных экспертаў дазволіў сабе абразіць акадэміка Георгія Лепіна, абвінавацiўшы яго і «Грынпіс» у «прадажнасці». Пры гэтым ён нічым не абгрунтаваў свае абвінавачанні.

Агрэсіўна з боку вядучага была ўспрыняты просьба Івана Крука перадаць час ягонага выступу географу Мікалаю Ўласевічу, які меў вялікую колькасць заўваг да дакумента. У выніку М.Уласевіч не здолеў скончыць даклад. Палове ж зарэгістраваных дакладчыкаў слова не было прадстаўлена наогул. У гэтую палову патрапілі вучоныя, прадстаўнікі грамадскіх арганізацый і грамадзяне, якія мелі заўвагі да «Заявления об ОВОС», то бок па тэме слуханняў. Фізік Андрэй Ажароўскі, як адзначалася вышэй, наогул быў арыштаваны на ўваходзе на тэрыторыю кінаканцэртнага комплекса. Пры гэтым у яго без усялякіх падставаў быў канфіскаваны тэкст заўвагаў да вынесенага на абмеркаванне дакумента, то бок матэрыялы, непасрэдна датычныя тэмы слуханняў. Таксама на мерапрыемства не былі дапушчаныя некаторыя праваабаронцы і прадстаўнікі апазіцыі. Многія пытанні, афармленыя ў належнай пісьмовай форме, былі праігнараваныя. Некаторыя з іх адбіраліся ва ўдзельнікаў валанцёрамі, якія не давалі ніякіх гарантыяў рэгістрацыі пытання.

Такім чынам можна засведчыць, што мерапрыемства не можа лічыцца адпаведным міжнародным канвенцыям, з патрабавання якіх яно праводзілася. На «слуханнях» голас супраціўнікаў АЭС папросту не пачулі.

*Алесь Спіцын, удзельнік слуханняў*



## Шаноўныя браты і сёстры!

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газэты «Крыніца», буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,

ці e-mail: **bchd.mail@gmail.com**

або тэлефон – **8 029 5160861 (Павал)**.

**Незалежнае інфармацыйнае выданьне**
**Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»**
**Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.**
**Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ**

**Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 25 кастрычніка 2009**
**Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.**
**Распаўсюд бясплатны.**